*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 23 (511)** **6 ЧЭРВЕНЯ 2001 г.**

# З'езд аб усім чыста, што баліць



**Прамову Васіля Быкава да з'езду чытае Генадзь Бураўкін**

Пагаварыць аб усім чыста, што баліць, паклікаў народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч дэлегатаў XIII з'езду Саюзу беларускіх пісьменнікаў, што прайшоў у Менску ў Доме літаратара 29 траўня 2001 года. З 505 паэтаў і пісьменнікаў, якія стаяць на ўліку ў Саюзе, на з'езд сабралася 364 чалавекі і зала Дома літаратара з цяжкасцю ўмясціла майстроў слова Зямлі Беларускай. З'езд паважліва ўшанавала сваёй прысутнасцю гуманітарная галіна беларускай улады: віцэ-прэм'ер сп. Дзямчук, міністр культуры сп. Гуляка, намеснікі старшыні Дзяржкамдруку сп.сп. Нічыпаровіч і Глушакоў, намеснік міністра адукацыі сп. Дылян. Былі зачытаны прывітанні ад Ал. Лукашэнкі і мітрапаліта Філарэта.

Але танальнасць з'езду задалі ўступныя словы Ніла Гілевіча і прывітальны ліст Васіля Быкава, які зачытаў Генадзь Бураўкін.

Неаднаразовыя спробы павярнуць з'езд у рэчышча абмеркавання мастацкіх якасцяў нейкага асобна ўзятага апавядання не мелі поспеху. З'езд гаварыў, стагнаў і крычаў пра тое, што найбольш баліць кожнаму беларусу, пра дзяржаўную палітыку на ўдушэнне мовы, беларускай адукацыі, беларускай культуры, пра дзяржаўную палітыку знішчэння беларускай дзяржавы, як ні парадаксальна б гэта не гучала.

Нават праблема невялікіх накладаў беларускіх выдан-няў, адсутнасць дзяржаўнай падтрымкі пашырэнню беларускай кнігі хвалявала з'езд менш, чым агульная праблема беларускай наасферы. Наклады кніг можна падняць. Як павярнуць ментальнасць народу да чытання гэтых кніг?

Магчыма таму і вынесена было на з'езд асобным пытаннем, пытанне аб адносінах да моладзі.

Намеснік міністра адукацыі сп. Дылян спрабаваў звесці праблему беларускай мовы ў школе да тога, што ў 90-я гады у школу пайшлі дзеці вучняў 70-х гадоў, калі 33% беларускіх школьнікаў не вывучалі мову, а ў Менску гэты працэнт дайходзіў да 70%.

У перадачы БТ "Падзея" адразу пасля з'езду вядавец задаў пытанне Вользе Іпатавай, ці прасілі што-небудзь пісьменнікі ў дзяржавы? А і сапраўды. Беларускім пісьменнікам дастала гонару нічога не прасіць у беларускай дзяржавы, у той дзяржавы, якая апошнія сем гадоў стаіць на пазіцыях цемрашальнага ўдушэння ўсяго беларускага.

Пісьменнікі падымалі праблемы, азначалі шляхі іх вырашэння і, нават, калі многія з іх гатовы шукаць кампраміс з той жа дзяржа-вай адзін на адзін, перад высокім з'ездам усе мелі гонар застацца творцамі, чыя творчасць непадлеглая ні рублю, ні чыну. Беларускія пісьменнікі ў чарговы раз паказалі гонар і непахіснасць беларускага духу.

Важнай часткай з'езду былі выбары старшыні СБП, Рады СБП і Рэвізійнай камісіі. З дзесяці вылучаных кандыдатур да занясення ў бюлетэнь дайшлі дзве: Вольга Іпатава і Мікола Мятліцкі. Адносіны з'езду да кандыдатур у многім перадвызначылі асобы рэкамендантаў. Кандыдатуру Міколы Мятліцкага прапанаваў Іван Шамякін. Вольгу Іпатаву рэкамендаваў Васіль Быкаў, чый ліст агучыў Анатоль Кудравец.

У выніку таемнага галасавання, у якім прынялі ўдзел 343 чалавекі, за Вольгу Іпатаву прагаласавала 195 дэлегатаў, супраць 146. За Міколу Мятліцкага – 127, супраць – 214. Два бюлетэні прызнаныя несапраўднымі. Старшынёй Саюза беларускіх пісьменнікаў абрана Вольга Іпатава, найбольш вядомая як аўтар высокамастацкіх гістарычных раманаў, сябар Рэспубліканскай Рады ТБМ.

Была абрана Рада СБП у складзе 65 чалавек і Рэвізійная камісія ў складзе 15 чалавек.

З'езд прыняў рашэнне паводле якога старшыня СБП павінен быць адначасова і старшынём Беллітфонду.

Былі прынятыя выніковыя рэзалюцыя і заява з'езду.

Саюз беларускіх пісьменнікаў прайшоў свой XIII з'езд без стратаў і ўвайшоў у яшчэ адзін этап бітвы за Беларусь.

Гасцямі з'езду былі старшыня ТБМ Алег Трусаў, першы намеснік старшыні ТБМ Людміла Дзіцэвіч, прадстаўнікі фінскага і шведскага Пэн-цэнтраў, пратаіэрэй Георгі Латушка. Алег Трусаў прывітаў з'езд пісьменнікаў "Словам да беларускіх пісьменнікаў", прынятым VII з'ездам ТБМ тыдзень таму.



**Вольгу Іпатаву віншуе Мікола Мятліцкі**

## Пратакол сходу № 1

***У сходзе прымалі ўдзел:***
1. *Д-р. Качаткоў Р.*
2. *Д-р. Гарушка Н.*
3. *Сп. Няпомняшчых В.*
4. *Сп. Няпомняшчых Ю.*
5. *Д-р. Сцяпаненка А.*
6. *Сп. Вайтовіч-Кэміляры Т.*
7. *Сп. Гігер А.*

***Абмяркоўвалі:***
*Неабходнасць падтрымліваць і ўмацоўваць карыстанне беларускай мовы сярод беларусаў у Таронта.*

***Пастанавілі:***
1. *Стварыць суполку Таварыства беларускай мовы ў г. Таронта, Антарыё, Канада.*
2. *Наладзіць і падтрымліваць сувязь з Таварыствам беларускай мовы на Беларусі.*

***Качаткоў,***
***Таронта, Антарыё, 25 лютага 2001.***

**На паседжанні Сакратарыяту 31.05.2001 г. суполка ТБМ з Таронта пастаўлена на ўлік.**

Беларуская мова- **ТБМ** наша будучыня



## Ахвяраванні на ТБМ

1. Санько Зміцер – 5.000
2. Санько Наталля - 1.000
3. Санько Кастусь – 500
4. Санько Яніна – 500
5. Санько Наталля - 500
6. Марціновіч Вал. – 500
7. Маруцік Уладз. – 1.000
8. Сергіенка Галіна – 500
9. Таўстая Ала – 1.000
10. Трусава Алена – 5.000
11. Прыц Сяргей – 1.000
12. Сераўкіна Мар. – 1.000
13. Белая Н.В. - 1.000
14. Чорная О.Н. - 500
15. Яловік Т.М. – 500
16. Арцішэўскі А.А. – 1.000
17. Марціновіч Я.У. - 1.000
18. Ліхацэвіч А.П. – 10.000
19. Асіпенка Віктар – 1.000
20. Катовіч Віталь – 2.000
21. Багдановіч Алена – 500
22. Прыхіл. мовы –100 USD

1. Галіноўская Ніна Васільеўна – 5.000
2. Суполка "Берагіня" гімн. № 4 – 4.000
3. Ганчарова Людміла (Менск) – 500
4. Галай Аркадзь (Менск) - 1.000
5. Кановіч Алесь – 5.000
6. Касцюк Ю.В. - 1.000
7. Шкірманкоў Фелікс (Слаўгарад) – 2.000
8. Сям'я Адамовічаў (Чэрвень) – 5.000
9. Петруковіч Васіль (Менск) – 4.000
10. Галай Аркадзь (Менск) - 1.000
11. Базылёў Віталь (Менск) - 1.000

1. Надзея Раманчык (Навагрудскі р-н) – 1.000
2. Медработнікі Жыткавіцкай паліклінніeasі – 10.000
3. Смоляк Аркадзь Арсен. (Магілёў) – 5.000
4. Канавалаў Іван (Менск) –1.000
5. Галай Аркадзь (Менск) - 1.000
6. Базылёў Віталь (Менск) – 1.000
7. Віталь (Мядзель) - 1.000
8. Мінчук Георгі (Менск) – 5.000
9. Абламейка Сяргей (г.Прага) – 3.300
10. Казлоўская Інна Осіпаўна (Менск) – 500
11. Генадзь Бураўкін (Менск) – 5.000

***Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гарадырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).***





# Нацыянальная літаратура – гэта галоўная цвярдыня нацыянальнага духу, нацыянальнай ідэі, нацыянальнай самасвядомасці...

## СЛОВА НАРОДНАГА ПАЭТА БЕЛАРУСІ НІЛА ГІЛЕВІЧА НА АДКРЫЦЦІ XIII З'ЕЗДУ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

Паважаныя дэлегаты і госці з'езду!

Ёсць зусім не малая ў маштабах Еўропы краіна. Ёсць зусім не маалікі ў маштабах свету славянскі народ. Ёсць пасечаная жахлівымі трагедыямі тысячагадовая гісторыя гэтага народа. Ёсць накінуты гэтаму народу на стагоддзі, а можа і больш, Чарнобыль. Ёсць выміранне нацыі, у якой смерць нашмат перавышае народзіны. Ёсць ушчэнт здрапежаная, змучаная, абяскроўленая зямля і дабітая да ручкі сельская гаспадарка. Ёсць развалeная, кульгавая на абедзве нагі эканоміка. Ёсць дзікае і непрабуднае ўсенароднае п'янства. Ёсць, паралельны Чарнобылю фізічнаму, Чарнобыль маральны і духоўны. Ёсць татальнае панаванне бесцырымоннай хлусні на афіцыйным узроўні. Ёсць зняверанасць, разгубленасць і роспач мільёнаў людзей, якія пытаюцца: як жыць і як быць? Ёсць небывала ганебны палітычны курс на ліквідацыю суверэннай дзяржавы. Ёсць пакаланізатарску бязлітасны этнацыд і лінгвацыд адвечнага племя "тутэйшых" на яго адвечнай вотчыннай зямлі. Ёсць тое ж, як і сто гадоў назад, становішча, калі ты хочаш крыкнуць "ратуйце!", а цябе прымушаюць крычаць "дзякуй!".

Але ёсць і народжаная на гэтай зямлі, можа быць, самая геніяльная формула народнай мудрасці: памірац збірайся, а жыта сей!

І ёсць з'яднаная ідэяй Бацькаўшчыны і сімвалам Пагоні незлічоная армія моладзі, якая ўжо ніколі не змірыцца з жыццём у няволі, і гора таму, хто гэтага не хоча зразумець.

І ёсць духоўная народная культура, ёсць фальклёр, перад якім можа не зняць шапку толькі выкапнёвы дзікун і хам.

І ёсць прафесійнае мастацтва, якому з пашанай адчыняюць дзверы лепшыя ў свеце тэатральныя сцэны, музеі і карцінныя галерэі.

І ёсць прызнаная светам літаратура.

Вось у такой краіне, у такі час, у такіх умовах сабраліся мы, паважаныя калегі, на свой з'езд.

Кожны чарговы з'езд беларускіх пісьменнікаў чакаецца грамадскасцю рэспублікі як падзея ў культурным жыцці краіны. Гэта тлумачыцца тым, што Саюз пісьменнікаў заўсёды, ад самага пачатку, лічыўся галоўным, ці вядучым творчым саюзам Беларусі. Ад з'езду пісьменнікаў зацікаўленыя і зычлівыя чытачы чакаюць чагосьці большага, чым толькі падвядзення вынікаў творчай працы. У спрэчках і дакументах з'езда яны спадзяюцца пачуць тое, што пацвердзіць высокую рэпутацыю саюзу майстроў слова, саюзу мысляроў і праўдашукальнікаў, агменецаў беларускай нацыянальнай ідэі, яе носьбітаў і абаронцаў, інакш кажучы, - пачуць голас духоўнай эліты нацыі. Рэч, аднак, у тым, што на працягу доўгіх дзесяцігоддзяў партыйныя і дзяржаўныя ўлады Беларусі рабілі ўсё, што маглі, каб перашкодзіць кагорце беларускіх літаратараў узвысіцца да рангу духоўнай і культурнай эліты, стаць той галоўнай грамадскай сілай, якая б фармавала культурнае аблічча рэспублікі. Фармавалася яно, і вельмі інтэнсіўна, пераважна іншымі, небеларускімі сіламі, беларускія ж ішлі або на Калыму, або ў Курапаты, а тых, хто такое долі пазбягаў, - стараліся ператварыць у пакорных служак рэжыму. Усё гэта дало адпаведныя вынікі: і да гэтага часу яшчэ не ўсе з нас усвядомілі, што гэта дзіка ненармальны стан рэчаў, калі духоўная культура карэннай нацыі, у тым ліку і мастацкая літаратура, знаходзіцца ў родным доме на правах падчаркі, з'яўляецца нейкім этнаграфічна-экзатычным даважкам; не ўсвядомілі, што такі стан рэчаў ёсць ганебны і яго трэба самым рашучым чынам мяняць, для чаго трэба гэтак жа рашуча пазбавіцца ад жабрацкіх звычак прасіць і кленчыць, а гэта, як вы разумееце, магчыма пры адной умове – пры наяўнасці высокаразвітага пачуцця нацыянальнай годнасці і гонару.



Перадз'ездаўская дыскусія, на жаль, па-сапраўднаму не разгарнулася. Пра што гэта гаворыць – ёсць над чым задумацца. Ці трэба, напрыклад, бачыць у гэтым моцную паразу арганізму бацыламі раўнадушнасці, і не толькі да лёсу нашага Саюзу, але і да лёсу нашай культуры а, урэшце, і да лёсу Беларусі? Сацыяльна-грамадская апатыя – рэч вельмі небяспечная, і для пісьменніка таксама. Сярод галасоў, што усё ж прагучалі ў друку, вылучыўся заклік не кранацца на З'ездзе праблем грамадска-палітычных, а гаварыць пра літаратуру і толькі, пра свае творчыя справы і клопаты, паколькі Саюз пісьменнікаў – не палітычная партыя, і не грамадскі рух, а суполка творцаў. Вядома, на з'ездзе літаратараў трэба гаварыць пра літаратуру. Толькі, пажадана, не забываючы, а якая ж галоўная місія мастацкай літаратуры ў грамадстве. Хіба гэтая місія не ў тым, каб дапамагчы чалавеку вызваліцца ад псіхалогіі раба і стаць грамадзянінам – асобай з пачуццём уласнай годнасці? Хіба не ў тым, каб дапамагчы людзям убачыць шлях да жыцця справядлівага, разумнага, заснаванага на законах чалавечнасці? Ведаем: заўсёды былі і ёсць сілы, якія б хацелі бачыць літаратуру сэрвільнай, прыслужніцкай, забаўляльнай. І слабыя духам, здараецца, ідуць гэтым сілам насустрач. Сумна і горка бывае чытачам той краіны, дзе ў лёсавызначальны для народа час літаратура самаўхіляецца ад выканання сваёй галоўнай, прызначанай Богам, місіі. Ёсць усе падставы гаварыць, ды гэта і відно, што чытачам краіны Беларусь сумна і горка не будзе, бо іх паэты і пісьменнікі ад наканаванай ім місіі не ўхіляцца, бо яны былі і ёсць плоць ад плоці народа, у іх сэрцах – ягоны боль, ягоныя трывога і скруха, - але ж і ягоная сіла-моц, і ягоная трываласць веры. Паэты і пісьменнікі краіны Беларусь не могуць ізалявацца ад балючай памяці народа, ад трагічнай гісторыі літаратуры, спадчыннікамі якое сталі, не могуць жыць і працаваць так, як быццам на свеце не жылі і не працавалі Багушэвіч, Цётка, Купала, Колас, Багдановіч, Гарун, Гарэцкі, браты Луцкевічы, Ластоўскі, Жылка, Бабарэка, Чорны, Зарэцкі, Мрый, Калюга, Геніюш...

У гісторыі краін і народаў бываюць часіны, калі кожны літаратар павінен зрабіць выбар, - талент і сумленне павінны яму падказаць, што выбраць – якую дарогу, які лёс, якую славу ці няславу. І вось у такі ўрочны час выбару нам радзяць размову на з'ездзе не падключаць да высоканапружанай атмасферы грамадска-палітычнага жыцця ў краіне. Больш за тое: мудра-абачлівыя дарадчыкі намаўляюць і чытачам, і пісьменнікам, што сапраўды таленавітыя творцы сядзяць ціха, на барыкады не ўзыходзяць, публіцыстыку не пішуць, а думаюць пра вечнае і твораць вечнае. Абачлівасці ў гэтых парадах шмат, але мала праўды. Самы геніяльны балгарскі паэт Хрыста Боцеў загінуў на полі бою ў змаганні за нацыянальную свабоду Балгарыі. Самы вялікі венгерскі паэт Шандар Пецёфі загінуў на полі бою ў змаганні за нацыянальную свабоду Венгрыі. Самы вялікі ўкраінскі паэт Тарас Шаўчэнка быў сасланы за Каспій на рэкруцкую катаргу як змагар за свабоду Украіны. Самы вялікі беларускі паэт Янка Купала быў даведзены да "харакіры", а затым да загадкавай смерці ў Маскве як палымяны змагар за нацыянальную свабоду Беларусі. Не стану доўжыць пералік імён – дастаткова і гэтых.

Прагучаў перад з'ездам і невядома каму кінуты папрок: "Не гаварыце ад імя народа! Ён вас не прасіў аб гэтым!" Правільна, не трэба гаварыць ад імя; але калі табе дадзены Божы дар – сумей пачуць, чым жыве душа народа, і сказаць пра гэта так, каб чытач табе паверыў, убачыў, што ты не хлусіш, і з удзячнасцю прыняў сказанае. Не трэба гаварыць ад народа, але гаварыць да народа, да соцень і тысяч людзей - трэба: гэта нам запавяталі вялікія. ***"З цэлым народам гутарку весці, сэрца мільёнаў падслухаць біцця"*** – вось грамадзянскае крэда Паэта. ***"До спаць! Паўстаньце грамадою... Паўстаньце! Край ваш стогне родны..."*** – вось голас Паэта, звернуты да народа ў дні, калі менавіта такі голас і павінен быў прагучаць. ***"Беларусь мая! Краіна-браначка! Устань, свабодны шлях сабе шукай!"*** – вось што вырывалася з хворых грудзей самага эстэтычнага нашага паэта. І яшчэ адна вядомая вам усім паэтычная цытата:

***Прощай, немытая Россия,***
***Страна рабов,***
***страна господ,***
***И вы, мундиры голубые,***
***И ты, послушный им народ.***

Толькі суздром заскарузлае сэрца можа не адчуць, якім страшным сыноўскім болем прадыктаваны гэтыя геніяльныя радкі вялікага паэта Расіі.

109 гадоў назад была выдадзена беларуская брашура пад назвай "Дзядзька Антон, або гутарка аб усім чыста, што баліць, а чаму баліць – не ведаем". Думаю, што і мы сабраліся на з'езд дзеля таго, каб пагаварыць аб усім чыста, што нам баліць. Тым больш, што мы ведаем, і чаму баліць. Пачнём з таго, што найбалючэйшы сёння наш боль, які родзіць у душах гнеў праведны, - гэта бачыць тое, як рыхтуецца і крок за крокам ажыццяўляецца ліквідацыя дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі. Калі з'езд пісьменнікаў не выкажа сваіх адносін да гэтай гнюснай запраданскай акцыі – будзе грош цана ўсім прамовам, якія тут прагучаць. Другое, аб чым мы павінны гэтак жа рашуча выказвацца, - гэта аб рэзервацыі, у якую загнана за апошнія сем гадоў наша родная мова. Мова, на якой створана багатая і самабытная літаратура, мова, якая выявіла за 1000 гадоў нашай гісторыі дзівосныя творчыя магчымасці і, я сказаў бы, проста загадкавую жыццяздольнасць. Мы не сумняваемся, што наша мова будзе жыць, што ў яе вялікая будучыня. І не страх, што яна адамрэ, бунтуе сёння душу беларускага пісьменніка. Бунтуе душу тое, што даводзіцца кожны дзень і на кожным кроку тут, на сваёй жа зямлі, сутыкацца з дзікунствам і хамствам у адносінах да найвялікшага духоўнага скарбу народа, бачыць цынічнае гумленне з нашай галоўнай нацыянальнай святыні, якуюсьці заалагічную нянавісць да адной з самых прыгожых моў на зямлі.

Зноў і зноў мы вымушаны спытаць: а што ж дзяржава? Дзяржава мае якое дачыненне да нацыянальнай культуры ці яна па-за межамі духоўных інтарэсаў нацыі? Тысячы разоў вялікія людзі цывілізаваных краін свету падкрэслівалі: мова ёсць першаэлемент нацыянальнай культуры, ёсць аснова асноў нацыянальнай культуры і ўсёй духоўнасці народа. Без клопату аб мове народа няма і не можа быць клопату аб нацыянальнай культуры. Увесь цывілізаваны свет ведае гэту ісціну і кіруецца ёю, і толькі Беларусь – краіна і дзяржава ў цэнтры Еўропы – да гэтай ісціны не дарасла.

Паважаныя калегі! Нацыянальная літаратура – гэта галоўная цвярдыня нацыянальнага духу, нацыянальнай ідэі, нацыянальнай самасвядомасці. Толькі такім павінна быць наша разуменне місіі, ролі і месца беларускай літаратуры ў грамадстве, у жыцці народа. Толькі на грунце такога разумення, г.зн. на грунце беларускай нацыянальнай ідэі, магчыма гуртаванне і кансалідацыя нашых творчых сіл. Гэта – галоўнае. А ўсё тое, што насупраць гэтаму, - яно не ад Бога, а ад сатаны, ад д'ябла. І будзе вельмі кепска, калі ў творчым і грамадскім жыцці нашага Саюза будзе браць верх не галоўнае, не тое, што ад Бога.

Маці-Беларусь і Маці-Мова – іншага, больш дарагога, чым гэта, больш святога, чым гэта, у нас няма. Паслужым жа, колькі хопіць сіл, Роднаму Краю і Роднаму Слову. Слову з вялікай літары. Слову святлістаму і неспадманнаму. Кажучы радкамі Купалы, Слову магутнаму і бяссмертнаму.

Па даручэнні Рады Саюзу абвяшчаю XIII з'езд беларускіх пісьменнікаў адкрытым.





*Васіль Быкаў*

# Дазвол на свабоду каштуе яшчэ даражэй, чым дазвол на зямлю

## ПРАМОВА ДА XIII З'ЕЗДУ САЮЗУ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

Свабода – найбольшая маральна-фізычная каштоўнасьць, дадзеная жывой істоце фактам яе нараджэньня. Усё жывое і карыстаеца тою каштоўнасьцю, наколькі гэта мажліва ў заблытаным сьвеце арганічнага існаваньня. Апроч хіба чалавека. Чалавеку мала народжанай свабоды. Каб у поўнай меры спазнаць і адчуць яе неабходнасьць, яму наканавана прайсьці ў жыцьці праз хітрасьплецены лабірынт прыгнёту, хлусьні і несвабоды, а то і застацца ў адным з яго тупікоў. І там прызвычаіцца, змарнець, страціць свой прыроджаны дар свабоды дзеля мэты элементарнага біялагічнага існаваньня. Зрабіцца часткай натоўпу, грамадзтва, электарату, - як і ўсе.

Але як быць чалавеку, калі ён – не як усе, і вылучаецца з масы сабе падобных, калі ён творца, што дзеіць паводле ўнутраных імпульсаў самавыяўленьня? Як яму пераадолець тую брутальную залежнасьць ад сілы соцыюму, які нязьменна нівелюе яго, - прабачце за патас – Богам дадзены дар? Ці, можа, ня трэба нічога пераадольваць, а падладзіцца, прыстасавацца, каб дамагчыся бесканфліктнага існаваньня. Як гэта робіць бальшыня зямных насельнікаў. Дзесяткі гадоў у нашых вушах гучыць нявольніцкая максіма:"Нельзя жить в обществе и быть свободным от общества". Што праўда, то праўда – нельга быць свабодным у несвабодным грамадзтве – не дадуць. Не дазволяць. Тыя, ад каго тое залежыць, натхняюцца не зманлівай ідэяй чалавечай свабоды, а рэальнаю ідэяй прыгнёту і сілы. І праўда, яны валодаюць немалой сілай, бо яны – заўжды – гурт. Іх шмат, а нас мала, і яны рэгулярна пагражаюць перацерці нас на лягерны пыл. Таму ёсьць пра што думаць і чаго баяцца.

Мабыць, сапраўды, каб выжыць варта згуртавацца, што робяць шмат якія істоты ў жывой прыродзе. Асабліва калі гурт мае ідэю – малаважна якую, добрую ці благую. Часам ідэяй робіцца інстынкт нацыі ці кляса ці якога гурта, і тады сьвет апынаецца перад імперскай, пралетарскай, нацысцкай ідэяй, якія заўжды каштуюць крыві. Апантаныя, г. зн. папулярныя ідэі заўсёды каштуюць вялікай крыві і рэдка здзяйсьняюцца. Нават і сьвятая сярод іх ідэя свабоды.

Але ці дужа якая ідэя патрэбна творцу, калі ягоная душа ўжо захоплена ідэяй іншага кшталту – ідэяй праўды і прыгожасьці? Іншаму там мейсца няма, і ён – індувідуаліст. Усё значнае ў мастацтве спрадвеку ствараецца на грунце індывідуалізму. Спробы зарганізаванай мастацкай творчасьці (тым болей літаратурнай) заўсёды скончаліся фіяска і пакінулі кепскую памяць пра сябе. Творцы твораць штучны тавар, таму працуюць паасобку. Творчы альянс нават двух, калі кожны зь іх геній, невераrодны. Толькі паасобку. Нават калі яны адзінадумцы, адзінаверцы, належаць да аднае партыі. Калектыўны элемент у мастацтве, несумненна, мае выключна дэструктыўны характар.

Праўда, наш час асаблівы, - крывадушны і жорсткі, а што да мастацтва – разбуральны па свае сутнасьці, толькі мы яшчэ не надта ўцямілі тое. Мабыць, цяпер належыць клапаціцца не пра росквіт – пра выжываньне і захаваньне таго лепшага з нацыянальнай культуры, што гэтак брутальна бурыцца ўладай і часам. Пэўна, зрабіць тое лепей агулам. Але ці можна не разумець, што і бурыць выгадней агулам, - усё адразу. Так дзешавей для ўладаў, якія звыклі ўладарыць не толькі над целамі, але і над душамі. З тае мэтай у нядаўнім мінулым яны стварылі партыю, калгасы, ГУЛаг, каб заграбсьці ўсіх адразу. І сагналі творцаў у "творчыя" саюзы, дзе ўзялі іх у "творчы" палон. Тое яны найбольш рабілі рукамі і клопатам саміх жа творцаў з ліку найболей таленавітых калябарантаў. Па прынцыпу славутага самаабслугоўваньня: самі пішаце, самі сябе і саджайце.

Нашая літаратура быццам бы пакрысе выкарасквaецца з таго інтэлектуальнага ГУЛагу, зь якога яшчэ не шанцуе выбрацца нацыі. Свабода рабочых і сялянаў патрабуе, як кажуць, шмат валютных інвестыцыяў, якіх няма. На зброю і паліцэйскае начыньне інвестыцыі ёсьць, а на свабоду для народу няма. Літаратуры ж не патрэбныя інвестыцыі, нам патрэбны хіба дазвол. Але, аказваецца, дазвол на нашу свабоду каштуе яшчэ даражэй, чым дазвол на зямлю. Зрэшты, што да Беларусі, дык вынік аднолькавы – ні сяляне не маюць зямлі, ні пісьменнікі не маюць свабоды. Хоць бы свабоды на родную мову. Нават на мяккі знак, каб ня корчыць язык у роце ад ненатуральнага барбарскага вымаўленьня.

Усё тое, ведама ж, несакрушальная сіла няволі, зь якой мы звыкліся, зрадніліся, ад якой адступаць рызыкова і боязна. А галоўнае – не дазваляецца. Затое ад нас дамагаюцца іншага.

Можна зразумець тых нашых расейскіх калегаў (з ліку дэмакратаў, канешне), якія нядаўна перажылі ўсё тое самае і цяпер памкнуліся да зманлівай, труднасяжнай свабоды. Паяднаўшыся зь беларусамі, яны маюць намер набыць дадатковы шанец на шляху да свабоды, кіруючыся ўсё той жа лёгікай – гуртам зручней. Але старая чэшская прымаўка кажа: не запускай млын, калі не маеш моцы яго спыніць. Ці маюць моц нашыя расейскія калегі годна распарадзіцца хоць бы ўласным лёсам? Ці не рэальнай для іх, як і для нас, застаецца рызыка страціць усё? Дзе гарантыя таго, што іхні, хай сабе самы высакародны праект, будзе гэтак жа высакародна скончаны? Надта тое сумніўна ў краіне, дзе не спыняюцца ганебныя войны, усюды ліецца кроў, нішчыцца свабода слова, а галоўнае дзяржаўнай ідэяй, калі паглядзець, робіцца ўзноўлены нацыянал-чэкізм.

У нас і ўласнага няшчасьця хоць адбаўляй, - рушыцца эканоміка, народ даведзены да галечы. Дыктатура гвалтам нішчыць нацыянальную культуру і мову, але ж Вы нам дапамагчы ня можаце, шаноўныя калегі. Дапамагчы нам ня можа ўжо ніхто – так глыбока завязьлі мы ў багне хлусьні і тыраніі, што ад нас адвярнуўся ўвесь сьвет. І ўсё ж нам, як тым зэкам, дужа непажадана трапіць з адной катоўні ў другую, асабліва калі перапынак між допытамі апынуўся такі кароткі.

Таму пачакаем і застанемся пры ўласных інтарэсах – непадлегласьці і суверэнітэту, - наколькі тое магчыма. Канешне, гэта не свабода, а толькі яе ілюзіі, якія, аднак, тояць кропельку надзеі. Як і ў Расеі таксама. Мабыць, кожнаму свой шлях да свабоды наканавана прайсьці асобна. Усё ж індывідуалізм і ў гэткім абліччы – не самы горшы кірунак да яе. Можа, не найлепшы, але і не найгоршы. Прынамсі, у наш час усе астатнія горшыя, а ў аснове кожнай калектыўнай свабоды ляжыць свабода індывідуальная.

**Дакументы і матэрыялы VII з'езду ТБМ**

# Культурна-асветная праца ТБМ

## Даклад намесніка старшыні ТБМ Людмілы Дзіцэвіч VII з'езду ТБМ

Культурна-асветная праца любой грамадскай арганізацыі – гэта тая энергетычная сетка, якая пашырае яе ідэі, прыцягвае шырокія колы грамадства, робіць значныя змены ў свядомасці людзей.

За два апошнія гады значна вырасла і ўзбагацілася новымі формамі культурна-асветная дзейнасць ТБМ, якая даказала іх плённасць і перспектыўнасць.

Бібліятэка, створаная 12 верасня 1999 г., і Кніжны клуб залучаюць у Таварыстве людзей самага рознага ўзросту, Фонд бібліятэкі сёння налічвае каля 1100 адзінак. Сярод найбольш каштоўных – беларускія выданні пачатку XX ст. Гэта кнігі, якія належалі Віленскай беларускай гімназіі, беларускамоўныя падручнікі, творы Гарэцкага, Галубка, Коласа і інш. Нядаўна б-ка папоўнілася выданнем 1907 г. – зб. Я Купалы "Адвечная песня".

У бібліятэцы захоўваюца кнігі, выдадзеныя ў БССР у 20-40-х гадах, выданні беларускай эміграцыі. Міхаіл Дубянецкі прэзентаваў бібліятэцы працы М. Улашчыка, першыя карэктуры твораў С. Палуяна, В. Быкава. Сям'я Кіпеляў даслала з ЗША каштоўныя эміграцыйныя выданні. Многія кнігі маюць аўтографы аўтараў.

Такім чынам, у бібліятэку кніжнага клуба ТБМ паступіла каля тысячы кніг беларускай тэматыкі, выдадзеных на працягу стагоддзя ў Менску, Вільні, Беластоку, Нью-Ёрку, Мюнхене, Маскве. Сябрамі ТБМ Алесем Стральцовым і Таццянай Вабішчэвіч створаны электронны каталог кніг на Інтэрнэт-старонцы.

Кніжным клубам пад кіраўніцтвам Зміцера Цехановіча арганізаваны шэраг культурных акцыяў. Цікавай была выстава рарытэтнай кнігі, праведзеная сумесна з Нацыянальнай бібліятэкай. Зладжана вандроўка па мясцінах Ларысы Геніюш, сябры ТБМ наведалі ў Вішневе Валожынскага р-на ксяндза Ул. Чарняўскага, перакладчыка Бібліі на беларускую мову.

Прэзентацыя кнігі Адама Міцкевіча "Дзяды" выклікала шчырую ўвагу менчукоў, а літаратурны семінар Славаміра Адамовіча шырока залучаў аматараў паэзіі.

Плённымі былі два апошнія гады на сустрэчы, якіх налічваецца каля двух дзесяткаў. Адбыліся сустрэчы з А. Вольскім, Я. Брылем, Ул. Арловым, К. Тарасавым, С. Адамовічам, А. Фэдарэнкам, А. Камоцкім, Д. Бічэль, А. Грыцкевічам, В. Сёмухам, Э. Акуліным, М. Хаўстовічам, Б. Мускім і інш.

5 траўня 1999 г. запачаткаваў работу Відэаклуб, утвораны рупніцтвам Віталя Станішэўскага і маладзёвай плыні ТБМ. Пашырэнне беларускамоўнага відэа адбываецца ў некалькіх кірунках – паказы відэастужак, распаўсюджванне іх, выпуск раней невыдаванай прадукцыі, а таксама пашырэнне інфармацыі цераз прэсу і Інтэрнэт. Асобна хочацца адзначыць выданне мультфільмаў, так неабходных для беларускай дзятвы.

Важкасць справы, што вядзецца відэаклубам, я зразумела цалкам толькі на замежжы, у далёкай Вялікабрытаніі.

У англійскім горадзе Ньюкасл-андэлайн жыве каля двух дзесяткаў беларусаў, што трапілі туды падчас другой сусветнай вайны. Яны захавалі мову сваю, культуру, сувязь з Радзімай. Як радаваліся яны магчымасці набыць касеты на роднай мове, як слухалі родныя песні ў выкананні фальклорнага гурта "Грамніцы" БДУ культуры, якому пашчасціла трапіць з канцэртамі ў землі туманнага Альбіёна. Аўдыё, відэакасеты, кампакт-дыскі па-беларуску ўводзяць беларукую мову ў масавы ўжытак, вылучаюць яе са стану экзатычнай мовы, перасягаюць межы, рассяваюць нашую мову па ўсім свеце.

За апошнія два гады Таварыствам праведзены шэраг культурніцкіх акцыяў, сярод якіх адметнымі сталіся вечарыны, прысвечаныя 160-ым угодкам з дня народзінаў Ф. Багушэвіча, 70-ым угодкам Ул. Караткевіча, 90-ым – Ларысы Геніюш, 100-годдзю Забэйды-Суміцкага, 70-годдзю Алеся Петрашкевіча, 60-годдзю Кастуся Тарасава. Выклікалі цікавасць імпрэзы з нагоды 10-ых угодкаў Закона аб мовах, 10-гадовага юбілею ТБМ, а свята з нагоды выхаду ў свет 500-ага нумара газеты "Наша слова" залучыла мноства прыхільнікаў.

Апошнія два гады былі плённымі на конкурсы. Змястоўнымі аказаліся конкурс на лепшую вясковую школу праведзены сусмесна з ТБШ, конкурс для моладзі і дзяцей "Беларусь – мая Радзіма". Набліжаецца да заваршэння конкурс "Ведай свой горад Менск", праведзены ў БДУ культуры, Тэхналагічным універсітэце, Менскім інстытуце кіравання, гімназіі-каледжы № 24. Набраў размах конкурс, які праводзіцца сумесна з архівам найноўшай гісторыі-- "XX ст.: лёс майго роду і маёй Радзімы". Вынікам конкурсаў з'яўляецца вялікая ўвага моладзі да гісторыі, да беларушчыны.

Сябрамі ТБМ праведзены таксама шэраг наведванняў з культурна-асветнымі мэтамі рэгіянальных арганізацый – Віцебска, Берасця, Гародні, Магілёва, Слоніма, Ліды і многіх іншых.

Сёлетні навучальны год стаў плённым на здзяйсненне адукацыйных праектаў.

Цэлы год ішлі заняткі на курсах беларускай мовы, арганізаваныя рупнасцю Святланы Багданкевіч – старшыні камісіі па адукацыі. Курсы мелі трохступеневую будову: для пачаткоўцаў, для тых, хто працягвае вывучаць мову, і курсы па культуры мовы. Ужо адбыліся, у асноўным, выпускі курсантаў. Выкладчыкі Валянціна Раманцэвіч, Людміла Дзіцэвіч, уручылі пасведчанні аб заканчэнні курсаў, а Станіслава Філіповіч яшчэ прадаўжае заняткі. З верасня курсы зноўку адчыняць дзверы для слухачоў.

Надзвычай новай і захапляльнай з'явілася справа адкрыцця семінару "Я магу жыць лепей". Амерыканскі беларус, вядомы прыхільнік беларушчыны, Вячка Станкевіч здзейсніў задуму дапамагчы землякам у паляпшэнні ўсіх іх сфераў жыцця звярнуўшыся ў Таварыства. Дзякуючы супольным намаганням кіраўніка справамі Сяржука Кручкова і інструктараў семінару Антаніны Хатэнкі, Аляксея Хадыкі, Людмілы Дзіцэвіч больш за тры сотні людзей навучыліся выкарыстоўваць свае патэнцыйныя магчымасці, павышаць схільнасці і здольнасці, перамагаць неспрыяльныя абставіны. Семінар працаваў не толькі ў Менску – далучанымі былі слухачы Магілёва, Ліды, Асіповіч, Мар'інай Горкі, Заслаўя, Гародні і інш.

Распачаў работу гістарычны семінар "Ключавыя вузлы нашай гісторыі". Праведзены пасяджэнні – "Рагвалод і Рагнеда", "Усяслаў Чарадзей і ягоная роля ў беларускай гісторыі" пры актыўным удзеле гісторыкаў А. Грыцкевіча, Ул. Арлова, А. Трусава – высвецілі вялікую ўвагу моладзі і сталых людзей да гісторыі свайго краю. Наступнае паседжанне семінару адбудзецца 8 чэрвеня і прысвечана Е. Полацкай.

Хацелася б адзначыць і такі кірунак дзейнасці ТБМ як дабрачыннасць. Створаная на добраахвотныя складкі Таварыства, тым не менш, узяло ў апеку рысь з Менскага заапарку і штомесячна выдаткоўвае пэўную суму для выжывання гэтага прыгожага, цалкам беларускага звера.

Такая шырокая распластаванасць формаў працы пераконвае, што Таварыства беларускай мовы мала што пераадолела складанасці, выкліканыя зменамі ў краіне другой паловы 90-х, але і значна угрунтавалася, набыло другое дыханне. Яго павеў можна было адчуць і за мяжой, у Англіі і Валіі. І шляхі, і вынікі дзейнасці Камітэта валійскай мовы ў Кардыфе, дзе мне пашчасціла быць, не нашмат розняцца ад нашых, пры тым, што дзяржаўнае рэгуляванне моўных працэсаў ў Валіі і Беларусі непараўнальныя. Мне асабліва прыемна, што кніга "Аняменне" як хор галасоў пратэсту супраць лінгвацыду і газета "Наша слова" сёння разыходзяцца па ўсім свеце, прыцягваючы ўвагу міжнароднай супольнасці да нашых праблем. XXI стагоддзе дае нам шанец умацавання пазіцый нашае мовы, вываду яе з прасторы каставай, сялянскай ці пісьменніцкай, з тым, каб яна стала мовай душы і хлеба для кожнага жыхара нашай зямлі.



№ 23 (511) 6 ЧЭРВЕНЯ 2001 г. наша СЛОВА

# ДЭКЛАРАЦЫЯ АБ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

*Дэкларацыя аб беларускай мове – гэта супольнае выяўленне гістарычнай волі беларускага народа, да годнага існавання і перспектыўнага развіцця беларускай мовы – найвялікшага нацыянальнага багацця.*

**Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, прадстаўнікі беларускага этнасу і міжнароднай супольнасці, заклапочаныя станам і перспектывамі развіцця беларускай мовы,**

### канстатуем, што:

1. Беларуская мова -- тытульная мова беларускага народа.
2. Беларуская мова -- унікальная, самабытная, самастойная, дасканалая і выдатна распрацаваная лінгвістычная сістэма.
3. Беларуская мова ніколі не была ні часткай, ні адгалінаваннем, ні дыялектам нейкай іншай мовы, яна развівалася беларускім этнасам, унутры беларускага этнасу і паводле яго запатрабаванняў.
4. Беларуская мова – адзіная спрадвечная і паўнапраўная мова беларускага народа.
5. Паўнавартаснае жыццё беларускага грамадства можа быць рэалізавана толькі ў беларускамоўным асяроддзі.
6. Усе асноўныя гістарычныя, палітычныя і культурныя набыткі беларускага народа дасягнуты ў беларускамоўнай прасторы.
7. Беларуская мова ўяўляе сабой каштоўнасць для ўсяго чалавецтва і ў павінна быць захавана ў якасці жывой штодзённай мовы беларускага народа, як часткі агульначалавечай супольнасці.
8. Развіццё, удасканаленне і шырокае распаўсюджанне беларускай мовы – абавязак усіх грамадзян Беларусі і прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў краінах свету.
9. Беларуская мова існуе ў вусным і пісьмовым выглядзе, літаратурнай і дыялектнай формах. Пісьмовая беларуская мова мае сваю ўнікальную граматыку– збор нормаў і правілаў для забеспячэння найбольшай адпаведнасці пісьмовай мовы вуснай.
10. Слоўны запас беларускай мовы забяспечвае магчымасць высокаякасных перакладаў любой інфармацыі з любой мовы свету.
11. Беларуская мова зразумелая прадстаўнікам усіх народаў, што жывуць на Беларусі, яна можа і павінна выконваць функцыі мовы міжнацыянальных зносінаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

### пагаджаемся ў тым, што:

1. Грамадзяне Рэспублікі Беларусь павінны ведаць беларускую мову і карыстацца ёю ў штодзённым жыцці.
2. Беларусы за мяжой павінны лічыць за гонар ведаць беларускую мову і карыстацца ёю ў сям'і і грамадскай дзейнасці на карысць Беларусі.
3. Беларуская мова павінна быць адзінай афіцыйнай дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь.
4. Дзейнасць усіх палітычных партый і грамадскіх арганізацый Рэспублікі Беларусь мусіць ажыццяўляцца на беларускай мове, дзейнасць грамадскіх арганізацый нацыянальных супольнасцяў можа адбывацца на нацыянальных або міжнародных мовах, а, таксама, з выкарыстаннем беларускай мовы.

   У дзейнасці ўсіх прыватных і грамадскіх прадпрыемстваў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь павінна абавязкова выкарыстоўвацца беларуская мова.
5. Дзяржаўныя і недзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь абавязаны выкарыстоўваць беларускую мову або мець беларускамоўны варыянт. СМІ нацыянальных супольнасцяў могуць выходзіць на мовах гэтых супольнасцяў, а, таксама, выкарыстоўваць беларускую мову.
6. Нацыянальная сістэма адукацыі мусіць ажыццяўляць навучанне і выхаванне карэнных жыхароў Беларусі на беларускай мове, а прадстаўнікі нацыянальных супольнасцяў маюць права навучацца на іх нацыянальных мовах з абавязковым выкарыстаннем беларускай мовы.

### патрабуем, каб:

1. Беларуская дзяржава, як вышэйшая арганізацыйная структура беларускай нацыі, забяспечыла рэальнае існаванне і развіццё беларускай мовы, як адзінай афіцыйнай дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь, стварыла эканамічныя, юрыдычныя і арганізацыйныя ўмовы для выканання беларускай мовай усіх функцый у грамадстве.
2. Быў прыняты новы Закон аб мовах, які забяспечыць юрыдычныя падставы існавання і развіцця беларускай мовы, як адзінай дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь і створыць умовы пашырэння беларускай мовы ў пазадзяржаўныя сферы і за межы Беларусі.
3. Дзяржаўнымі структурамі была распрацавана праграма па рэалізацыі гэтага Закона.
4. Усе дзяржаўныя ўстановы і структуры, у тым ліку сістэма адукацыі і СМІ, працавалі на беларускай мове.
5. Быў створаны Дзяржаўны камітэт (Міністэрства) па справах беларускай мовы і адпаведныя структуры ва ўсіх міністэрствах і ведамствах Рэспублікі Беларусь.
6. Штогод у Рэспубліцы Беларусь праводзіліся парламенцкія слуханні па пытаннях аб стане беларускай мовы і перспектывах яе развіцця.

### зацікаўлены ў тым, каб:

1. Міжнародная супольнасць ставілася да беларускай мовы, як да мовы рэальнага і самастойнага народа, і ў адпаведнасці з гэтым ладзіла свае стасункі з Беларуссю.
2. Міжнародная супольнасць ўсвядоміла неабходнасць дапамогі беларускай мове ў яе развіцці і пашырэнні, а грамадзянам Беларусі -- у захаванні іх моўных правоў.
3. Міжнародная супольнасць зразумела, што станаўленне Беларусі, як дэмакратычнай краіны, магчыма толькі пры вырашэнні моўнага пытання на карысць беларускай мовы.
4. Беларуская мова шырока выкарыстоўвалася ў дзейнасці рэлігійных канфесій у Беларусі.

**Мы выказваем сваё імкненне да ажыццяўлення ідэй і прынцыпаў, закладзеных у Дэкларацыі, і падпісваем яе:**

*( Дэкларацыя прынята VIIз'ездам ТБМ імя Францішка Скарыны 20. 05. 2001 г.)*

**Дакументы і матэрыялы VII з'езду ТБМ**

## Пастанова VII з'езду ТБМ "Аб распрацоўцы і прыняцці Стратэгіі абароны развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі"

- Зыходзячы з афіцыйна абвешчаных вынікаў апошняга перапісу насельніцтва ў Рэспубліцы Беларусь 1999 г., паводле якога 76% грамадзян лічыць сваёй роднай мовай беларускую, а 37% з іх штодня карыстаюцца ёю;
- зважаючы на тое, што "Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь дзейнічае толькі на карысць расейскай мовы;
- што большасць кіраўнікоў беларускай дзяржавы свядома не карыстаецца мовай тытульнай нацыі;
- што ў Беларусі адсутнічае беларускамоўная вышэйшая школа, а колькасць сярэдніх школ і класаў з беларускай мовай навучання няўхільна змяншаецца,

**VII з'езд ТБМ імя Францішка Скарыны пастанаўляе:**

1. Адобрыць ідэю стварэння "Стратэгіі абароны і развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі" і абмеркаваць яе ў сваіх суполках да 1 кастрычніка 2001 г.
2. Лічыць мэтазгодным прадоўжыцы дзейнасць Рабочай групы па распрацоўцы "Стратэгіі абароны і развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі".
3. Выказаць шчырую падзяку дзяржаўным і недзяржаўным сродкам масавай інфармацыі за пачатак дыскусіі па гэтым пытанні.
4. Даручыць Рэспубліканскай Радзе ТБМ у канцы 2001 - пачатку 2002 г. г. прыняць канчатковы варыянт Стратэгіі і распаўсюдзіць яго для шырокай грамадскасці.
5. Вынесці канчатковы варыянт Стратэгіі для зацверджання на спецыяльную канферэнцыю ТБМ або чарговы з'езд ТБМ.

**Вярхоўнаму камісару ААН**
**Сп. Мэры Робінсан**

**Шаноўная сп. Мэры Робінсан!**

У адпаведнасці з нормамі УДПЧ, артыкулам Міжнароднага пакта аб сацыяльных, культурных і эканамічных правах мы сведчым пра з'явы лінгвацыду ў Рэспубліцы Беларусь. Нягледзячы на тое, што ў Канстытуцыі РБ зафіксаваны статус беларускай мовы, як дзяржаўнай, рэальна назіраецца яе масавая дыскрымінацыя.

Такое становішча вымусіла прыняць Дэкларацыю беларускай мовы.

Просім Вас наш зварот і інфармацыю давесці да структур ААН і міжнароднай грамадскасці.

Удзельнікі VII з'езду ТБМ
20.05.2001 г. г. Менск, Беларусь

## Вельмішаноўныя ўдзельнікі 7-га з'езду ТБМ

Вітаем вас і віншуем з нагоды вялікага сходу сяброў Таварыства. Сімвалічна, што з'езд адбываецца ў дзень Жыровіцкага абраза Божае Маці, патронкі ўсяе Беларусі. Гэта добры знак. Пад кіраўніцтвам старшыні Алега Трусава ТБМ сцвердзіла сябе як арганізацыя, што аказвае вялікі ўплыў на фармаванне грамадскай думкі пра родную мову, дадзеную нам Богам. Упэўненыя, што дзейнасць Таварыства атрымае высокую ацэнку, якую мы з радасцю ухвальваем. Падтрымліваем вылучэнне Алега Трусава старшынём Таварыства, а Міколу Лавіцкага і Людмілу Дзіцэвіч – намеснікамі. Плённай вам працы. Жыве Беларусь!

**З Вамі Марачкіны: Ірына, Аляксей, Ігар.**
18 траўня 2001 г.

## Паважаныя сябры!

Віншую ўдзельнікаў з'езду – сяброў ТБМ.

Толькі ахвярная штодзённая праца адродзіць нашу мову, а без яе не будзе нацыі, не будзе незалежнае Беларусі.

З павагай да Вас сябра ТБМ, сталы падпісчык, чытач "Нашага слова".

**Анатоль Сазонаў,**
**ветэран збройных сілаў са Слуцака.**
17.05.2001.








## РЭЗАЛЮЦЫЯ
### З'езду грамадскасці рэгіёнаў Беларусі

Мы, прадстаўнікі грамадскасці рэгіёнаў Беларусі, прааналізаваўшы стан, у якім знайходзіцца наша краіна, канстатуем, што за апошнія сем гадоў адбылося значнае пагаршэнне ўзроўню жыцця людзей. Працягваецца развал прамысловасці, сельскай гаспадаркі, фінансавай сістэмы. Негатыўныя працэсы пашыраюцца ў сацыяльнай сферы, культуры, адукацыі, навуцы, ахове здароўя, ва ўнутранай бяспецы і сферы міжнародных зносін. Пагоршыліся адносіны нават з Расеяй. Мы ўступілі ў перыяд дэмаграфічнага крызісу і сацыяльнай дэградацыі. Раскол у беларускім грамадстве стаў больш глыбокім і відавочным. Асаблівую трывогу выклікае адсутнасць перспектываў для моладзі, яе маральны стан. Традыцыйным стала цкаванне беларускай інтэлегенцыі і прыніжэнне яе годнасці.

Асноўнай прычынай гэтых негатыўных працэсаў з'езд лічыць разбуральную палітыку, якую праводзіць сённяшняе кіраўніцтва Беларусі.

Цяперашнія ўлады прыціскаюць праявы ўсіх дэмакратычных тэндэнцый у грамадстве. Дзяржава, выкарыстоўваючы спецслужбы, органы унутраных справаў, суды і пракуратуру, вядзе жорсткую барацьбу з грамадскімі арганізацыямі, прадпрымальніцтвам, апазіцыйнымі палітычнымі партыямі і недзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі.

Ужо відавочна, што вярнуць Беларусь на шлях прагрэсіўнага цывілізаванага развіцця магчыма толькі ў выніку прыходу да ўлады дэмакратычнага прафесійнага кіраўніцтва на чале з новым прэзідэнтам Беларусі. Толькі новае кіраўніцтва зможа ініцыяваць шырокі працэс аднаўлення на карысць беларускага грамадства.

Мы падтрымліваем пагадненне пяці магчымых кандыдатаў: Уладзіміра Ганчарыка, Сямёна Домаша, Паўла Казлоўскага, Сяргея Калякіна, Міхаіла Чыгіра, а таксама намаганні КРДС, скіраваныя на кансалідацыю грамадства і вылучэнне адзінага кандыдата.

Усведамляючы, што будучыя прэзідэнцкія выбары могуць мець вырашальнае значэнне для далейшага лёсу Беларусі, яе народа і будучых пакаленняў, мы, прадстаўнікі грамадскасці рэгіёнаў Беларусі, заяўляем пра свой актыўны ўдзел у будучай прэзідэнцкай кампаніі і выказваем сваю падтрымку магчымаму кандыдату – Сямёну Домашу. Мы ўпэўнены, што ён разам з камандай прафесіяналаў, якія падзяляюць нашыя погляды, здольны вывесці краіну з крызісу, забяспечыць дабрабыт людзей і вяртанне беларускага грамадства ў еўрапейскую супольнасць.

Заклікаем усіх грамадзян Беларусі падтрымаць нашу Рэзалюцыю і аб'яднацца дзеля будучыні нашай Бацькаўшчыны. Толькі разам мы зможам перамагчы на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах і змяніць наша жыццё да лепшага.

26.05.2001 г., г. Менск.

# Кіраўнічыя органы СБП

На XIII з'ездзе Саюзу беларускіх пісьменнікаў былі абраны Рада СБП і Рэвізійная камісія СБП. Знялі свае кандыдатуры з вылучэння ў Раду волаты беларускай літаратуры Ніл Гілевіч, Іван Навуменка, Іван Шамякін. І гэта не нейкая пазіцыя, гэта гады. Ніл Гілевіч трымаўся мацней, а Івану Шамякіну ўжо цяжка было і да мікрафона падысці. У спіс для таемнага галасавання было ўнесена 75 прозвішчаў. Абіралі 65. Рэйтынгавым галасаваннем былі выцеснены з Рады ў асноўным пісьменнікі, чые пазіцыі заблізкія да пазіцый улады. Рада па вялікаму рахунку засталася нацыянальнай і беларускамоўнай. Разам з тым пры выбарах значэнне мелі розныя фактары, у тым ліку і асабістыя сімпатыі.

## Рада Саюзу беларускіх пісьменнікаў

1. Адамчык В. Ул.
2. Андранюк С. А.
3. Арлоў Ул. А.
4. Баравікова Р. А.
5. Барадулін Р. І.
6. Башлакоў М. З.
7. Бічэль-Загнетава Д. І.
8. Блакіт В. Ул.
9. Бураўкін Г. М.
10. Бутэвіч А. І.
11. Быкаў В. Ул.
12. Вольскі А. В.
13. Вярцінскі А. І.
14. Гальпяровіч Н. Я.
15. Гардзей В. К.
16. Гніламёдаў Ул. В.
17. Дайнека Л. М.
18. Давідовіч С. Ф.
19. Далідовіч Г. В.
20. Дранько-Майсюк Л. В.
21. Дудараў А.А.
22. Дуктаў Ул. Ул.
23. Жук А. А.
24. Загорская Н. С.
25. Законнікаў С. І.
26. Зуёнак В. В.
27. Іпатава В. М.
28. Каваленка В. А.
29. Камароўскі А. А.
30. Камейша К. В.
31. Канапелька А. І.
32. Каржанеўская Г. А.
33. Карызна Ул. І.
34. Каско А. К.
35. Кірылаў Г. І.
36. Карлюкевіч А. М.
37. Кудравец А. П.
38. Кусянкоў М. С.
39. Ліпскі Ул. С.
40. Лойка А. А.
41. Лялько К. А.
42. Мальдзіс А. В.
43. Марціновіч А. А.
44. Масарэнка А. Г.
45. Мушынскі М. І.
46. Мятліцкі М. М.
47. Пазнякоў М. П.
48. Панізнік С. С.
49. Папова А. Г.
50. Паўлаў Ул. А.
51. Пашкевіч А. А.
52. Пісьмянкоў А. Ул.
53. Пташнікаў І. М.
54. Пятровіч Б. П.
55. Рагойша В. П.
56. Саламаха Ул. П.
57. Сіўко Ф. І.
58. Супрунчук В. П.
59. Ткачоў В. Ю.
60. Федарэнка А. М.
61. Цвірка К. А.
62. Чарняўскі Мік. М.
63. Чарота І. А.
64. Шніп В. А.
65. Ягоўдзік Ул. І.

## Рэвізійная камісія Саюзу беларускіх пісьменнікаў

1. Акулін Э. А.
2. Бадак А. М.
3. Вераб'ёў П. В.
4. Дзмітрыеў Г. Р.
5. Зэкаў А. М.
6. Коўтун В. М.
7. Крэдзіч А. М.
8. Макарэвіч В. С.
9. Міклашэўскі Я. В.
10. Праўдзін В. А.
11. Рублеўская Л.І.
12. Стадольнік І.К.
13. Сульянаў А.К.
14. Чарказян Г.Б.
15. Шабовіч М.В.

# А Б ' Я В А

**Менская беларуская нацыянальная гімназія №4 аб'яўляе набор дзяцей ва ўсе класы пачатковай школы на 2001-2002 навучальны год**

Гімназія дзяржаўная, уяўляе адметную сістэму класічнай нацыянальнай адукацыі.

З першага года навучання – англійская мова, логіка, заняткі ў музычнай школе і танцавальнай студыі, знаёмства з кампутарам і асновамі дызайну.

Трэці год навучання – славянскія мовы (польская і балгарская).

Сярэдняя і старэйшая школа – другая ці трэцяя замежная мова (нямецкая), профільнае навучанне: фізіка, матэматыка, хімія, біялогія, лінгвістыка, эканоміка.

Гімназія № 4 – гэта:

- паважлівыя і чулыя адносіны да Вашага дзіцяці;
- класы па 15-18 чалавек;
- творчыя настаўнікі, якія працуюць па аўтарскіх праграмах;
- глыбокая індывідуалізацыя і дзферэнцыяцыя навучання;
- утульная кавярня і сталовая, дзе дзеці смачна і якасна харчуюцца, спасцігаюць этыкет паводзін за сталом;
- спрыяльныя ўмовы для рэгулярных заняткаў фізкультурай і спортам;
- вучэбныя заняткі толькі ў першую змену;
- грунтоўнае авалоданне роднай мовай і літаратурай, гісторыяй і традыцыямі беларускага народа на базе гімназічнага нацыянальнага Цэнтра культуры.

Пры паступленні ў гімназію прадстаўляюцца наступныя дакументы: заява ад бацькоў, медыцынская карта дзіцяці, пасведчанне аб нараджэнні.

Адрас гімназіі: г. Менск, вул. Кунцаўшчына, 18,
Тэл. 258-49-74, 258-49-71, 215-33-82

## Запрашаем на чаргова семінар.

8 чэрвеня ў пятніцу а 18 гадзіне адбудзецца чарговы гістарычны семінар ТБМ на тэму: "Роля Еўфрасінні Полацкай у беларусай гісторыі". Асноўныя выступоўцы: вядомы пісьменнік Уладзімір Арлоў, знакаміты беларускі гісторык, доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч, старшыня ТБМ, кандыдат гістарыных навук Алег Трусаў.

Збор усіх жадальнікаў у сядзібе ТБМ

Па адрасе: вуліца Румянцава, 13 (каля лінгвістычнага універсітэта).

**Сакратарыят.**

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

***Шаноўнае спадарства! Ідзе падпіска на газету "Наша слова" на трэці квартал. Цана вырасла нязначна. Мы і толькі мы забяспечым вас усёй інфармацыяй па праблемах беларускай мовы ў нашай краіне. За 1644 рублі вы будзеце штотыднёва мець у сваёй хаце самую беларускую газету на Беларусі на працягу паўгода.***

***Сакратарыят ТБМ нагадвае кіраўнікам структураў ТБМ, што яшчэ ёсць магчымасць падпісаць газету "Наша слова" на 3-ці квартал для бібліятэк, бальніц, дзіцячых дамоў і садкоў за кошт ТБМ. Для гэтага трэба даслаць запоўненыя квіткі на адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.***

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865**
індэкс выдання

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2001 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | X | X | X |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| | | |
|---|---|---|
| | | |
| ПВ | месца | літар |

на газету / часопіс **63865**
( індэкс выдання )

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 1644 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На2001 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | X | X | X |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

# ГІСТАРЫЧНЫ, СІМВАЛІЧНЫ І ПРАРОЧЫ ХАРАКТАР ТВОРАЎ ЯНКІ КУПАЛЫ – ГАЛОЎНЫ СРОДАК УЗНАЎЛЕННЯ ПРАЦЭСАЎ САМАПАЗНАННЯ

Янка Купала – гэта постаць стагоддзя і фенаменальная з'ява ў літаратуры. Усю значнасць гэтай постаці мы на сёння яшчэ не ўсвядомілі і не спасціглі яе фенаменальнасць, бо Янка Купала, як ужо адзначалася на канферэнцыі, не прачытаны па двух прычынах: доўгія гады народ не меў доступу да ўсіх твораў (не ўсе вершы друкаваліся, не былі надрукаваны паэма "На Куццю" і п'еса "Тутэйшыя", па-за ўвагай чытача аказалася і публіцыстыка...), а рэдакцыі надрукаваных твораў вельмі часта не супадаюць з рукапісамі аўтара. А надрукаваныя Купалаўскія творы ў пэўнай рэдакцыі, на мой погляд, успрымаюцца значна вузей, чым яны ёсць у аўтара.

Постаццю стагоддзя Янка Купала з'яўляецца таму, што ён прыйшоў у літаратуру тады, калі наспела неабходнасць развіваць эпічны аспект літаратуры, калі неабходна было стварыць шырокую панараму дум, пачуццяў і імкненняў народа,ператварыўшы іх у мастацкую тканіну. Янка Купала зрабіў гэта з поспехам. У гэтым яго прадвызначанасць.

У XX стагоддзе, стагоддзе сацыяльных і духоўных узрушанняў, беларускі народ уваходзіў пасіўна і нерухома, уваходзіў жыхаром "Северо-западного края" – чужаком на сваёй зямлі, народам без Бацькаўшчыны, уваходзіў з яўнымі прыкметамі распаду нацыі, ізаляваным ад сваёй гісторыі і культуры... І для народа быў дарунак неба, дарунак вышэйшых сіл, бо менавіта ў пачатку XX стагоддзя, калі наспеў час гістарычнага самапазнання і духоўнага адраджэння, у нашу літаратуру прыйшлі магутныя творчыя сілы, а ўзначаліў іх пясняр і прарок Янка Купала, які здолеў пафіласофску асэнсаваць становішча свайго народа і ўзняць яго духоўнасць на новы ўзровень, вярнуць яму гістарычную спадчыну, добра разумеючы, што без гісторыі няма нацыі.

Уся творчасць Янкі Купалы падпарадкавана мэце: адказаць на пытанні "Хто мы?" і "Які лёс нас чакае?". Каб адказаць на гэтыя пытанні, паэт-празаік звяртаецца да скарбаў фальклёру, да гісторыі народа, да мінулага, пахаванага ў курганах і магілах, да велічных дасягненняў нашых продкаў... Фенаменальнасць творчага дару Янкі Купалы ў тым, што ён у сваіх творах праз мінулае, праз сваю трагічную сучаснасць прадказваў будучую долю народа. А прадказанні яго рэдка былі аптымістычныя.

Чытаючы і перачытваючы адну з ранніх паэм Янкі Купалы "Зімою", кожны раз усё больш заглыбляешся ў яе змест і ў сутнасць пакутнага вобраза Ганны. Гэты вобраз, з аднаго боку, такі канкрэтны, такі жыццёвы і рэальны, але гэтая канкрэтыка перарастае ў славесны сімвал. Лёс Ганны сімвалізуе лёс Беларусі і яе народа. Натуральна, што ў маладосці ў Ганны было каханне, шчасце. Але там, дзе шчасце павінна было ўзрастаць і шырыцца, чамусьці ўзрастае і набірае сілу горкая доля і няшчасці. І завяршаецца ўсё гэта трагедыяй – гіне Ганна разам з дзіцяткам. І гэта зноў ці не страшнае прароцтва нам, беларусам, на ўсё XX стагоддзе – гіне будучыня наша. А вобраз загінуўшай мадонны ператвараецца ў злавесны сімвал, у "страшнае зданне", "страшную мару, напаўадзетую", "зблытаны косы", "вочы пякуць":

*Грудзь да касцей*
*дзявоцкая вырвана,*
*Ранай адною свеціцца ўся,*
*Стане кроў люне*
*чырвана-чырвана;*
*Рукі калышуць мару – дзіця.*

*Тулаў дзіцяці*
*толькі хістаецца,*
*Ручак, галоўкі,*
*ножак – няма;*
*Да падарожных*
*з ім набліжаецца,*
*Жальбу заводзіць*
*жудка сама.*

Што гэта? Сімвал таго часу, калі за нас стараліся думаць іншыя, ці, можа, гэта сімвал чарнобыльскай трагедыі, таго агню і попелу, што ператварыў многія беларускія вёскі ў небыццё, а жыхароў-беларусаў – у выгнаннікаў, той трагедыі, якая ўмяшалася ў генетычны код жыхароў нашай зямлі?

Фенаменальнасць Янкі Купалы і ў тым, што яму давялося пачынаць сваю творчасць у той час, калі беларусы не мелі сваёй дзяржаўнасці, не мелі развітых форм уласнага палітычнага і эканамічнага жыцця. Што мог народ у такіх умовах? Нічога, ён быў паралізаваны. Янка Купала разумеў, што ў такіх умовах паэзія, літаратура наогул з'яўляецца той адзінай сілай, што здольна абудзіць этнічную самасвядомасць паралізаваных беларусаў, узняць іх духоўна, кансалідаваць сілы народа. Па цвёрдым разуменні Янкі Купалы, такая сучаснасць яго мела патрэбу ў звароце да гістарычнага мінулага, да яго адкрыцця народу для асэнсавання. Вось чаму гісторыя стала прадметам паэтызацыі. Акрамя гэтага, гістарычнае мінулае давала адказ, што сталася з нашым народам. У вершы "Над Нёманам" (1911) чытаем:

*Панам быў дома*
*і слаўным за домам*
*Мой папаптаны*
*сягоння народ,*
*Змог ён ня толькі*
*знаць штукі з заломам, -*
*Роднаму слову*
*ўмеў кніжны даць ход.*

У гэтых чатырох радках вялікі майстар здолеў дачыніцца да лёсу папярэдніх пакаленняў, да гістарычнага досведу народа, да той гуманістычнай і маральна-этычнай традыцыі духоўнага разняволення, якія сфармаваліся ў грамадска-прававой практыцы ВКЛ.

Шукаючы адказу на пытанне, што здарылася з цэлым народам, Янка Купала зноў і зноў вяртае нас сваімі творамі ў гістарычнае мінулае, каб ведалі, каб маглі параўнаць і ўсвядоміць сваю трагедыю. Менавіта пра гэта гаворыцца ў вершы "З мінуўшых дзён" (1909 г.), дзе ёсць такія радкі:

*... Загасцяў лад новы,*
*Ды не той, не свой,*

*Слых адно праходзе*
*Калі – нікалі*
*У жывым народзе*
*На жывой зямлі*

*Баіць, гнучы шыі*
*Паднявольны люд:*
*Мы ў сваім чужыя –*
*Край забраны тут!*

Карані нацыянальных "крыўд і бед" Янка Купала дапамагае нам пазнаць праз верш "Роднае слова" (1910 г.):

*Пад навалай крыўдай*
*многія сталецці*
*Мы няслі пакорна*
*лямку беспрасвецця,*
*Мы нясліі – ўсё ныла,*
*гінула памалу,*
*Аж не нашай наша*
*бацькаўшчына стала.*

Янка Купала перакананы, што да гэтага драматычнага становішча беларускі народ апусцілі гістарычныя абставіны і сацыяльныя ўмовы жыцця. Зразумела, што здарылася гэта не раптоўна, не адразу. Праз стагоддзі народу даводзілася перажываць войны, уціск, катастрофы, гвалт, што разбуралі дзяржаўны патэнцыял і падрывалі нацыянальныя сілы, свядомасць (з сярэдзіны 16 ст. назіраецца страта дзяржаўнасці і дзяржаўнай мовы, затым скасоўваюцца правы беларускага народа, спыняецца дзейнасць Статута ВКЛ...).

Аналізуючы гістарычныя катаклізмы, Янка Купала добра ўсвядоміў, што трагедыя народа такая вялікая, бо яго кіраўнікі памыляліся і здраджвалі духоўным каштоўнасцям, імкнуліся да багацця і ўлады любымі шляхамі, а за ўсё гэта расплачваўся народ: разбуралася яго этнічная самасвядомасць. Вось чаму так цікавіла Янку Купалу гістарычнае быццё народа, карані яго дзяржаўнасці, якія прарастаюць з часоў утварэння Полацкага, Тураўскага, Смаленскага княстваў, цікавіла і ВКЛ, як эпоха найвышэйшага росквіту старажытнабеларускай дзяржаўнасці. Народны паэт вяртаў свой народ да гістарычнага мінулагна праз легенды і паданні, праз вобразы-сімвалы, праз трагічныя сюжэты, узятыя для сваіх твораў з жыцця.

Паэма "Сон на Кургане" – гэта твор глыбока філасофскі і абагульнена сімвалічны. На вялікі жаль, змест гэтага твора чамусьці абавязкова прывязваюць да падзей рэвалюцыі 1905-1907 гг. На мой погляд, гэтага нельга рабіць, бо мы звужаем сэнс і значэнне твора. А твор гэты шырокапанарамны з сімвалічнымі вобразамі і з'явамі, са сцверджаннем той ісціны, што няма прарокаў у сваёй Айчыне, а калі з'яўляюцца, то гэта вельмі трагічныя асобы, асуджаныя на самоту і адзіноту. Тут таксама адлюстравана адлучанасць ад народа скарбаў яго гісторыі, супрацьстаянне народа сваім заступнікам, неразуменне свайго сапраўднага становішча простым чалавекам у выніку яго адлучнасці ад усіх сацыяльных здабыткаў, асуджанага на выжыванне, прыніжанага і паралізаванага ўладамі, законамі, судом і, нават царквой. А хіба не сімвалічна сітуацыя, калі Сам (бацька) і яго сын аказваюцца прадстаўнікамі розных грамадскіх сіл? У гэтым не толькі трагізм Сама, але гэта ёсць трагедыя і яго сына, у якой павінны ўлады, дзяржава. Ці таму мы нарэшце становімся сведкамі паляванння-аблавы сына на бацьку ў аповесці Васіля Быкава "Аблава". Філасофскую думку пісьменнік нам падказвае, але не тлумачыць. Аднак твор такімі апісанымі сітуацыямі сведчыць аб факце духоўнага выраджэння народа, яго дэградацыі. А гэта і быў змест той дзяржаўнай палітыкі, якая стагоддзямі нішчыла беларусаў.

Хочацца адзначыць і яшчэ, што далёка не ў поўнай меры прачытаны і такі твор Янкі Купалы, як "Раскіданае гняздо", які, здаецца, стаў хрэстаматыйным. Але адночы прачытаўшы, яго потым можна ўсведамляць усё жыццё, там кожны вобраз, кожны выраз з'яўляецца важным сімвалам, напоўненым глыбокім зместам.

Так, гэта адзін з нямногіх твораў, заснаваных на біяграфічных фактах, што звязаны з трагедыяй дзеда Янкі Купалы, у якога была адабрана зямля, спадчына. Аднак гэты факт канкрэтыкі зноў-такі перарастае ў з'яву – сімвал. І дарэмна даследчыкі звужаюць час дзеяння твора парэформенным саракагоддзем (як гэта ў А. А. Лойкі). Гэтая трагедыя мае свой узрост, які вымяраецца стагоддзямі. А сямейны план у драме – гэта толькі мастацкая непазбежнасць. Твор мае агульначалавечае гучанне, бо сваім зместам раскрывае чытачу агульнанародную трагедыю. Цяжка пагадзіцца і з вызначэннем жанру гэтага твора. Не драма гэта, а трагедыя, сутнасць якой у адлучэнні селяніна ад зямлі, беларуса – ад сваёй Бацькаўшчыны, цэлага народа – ад яго гісторыі, культуры, спадчыны... І трагедыя гэтая – гэта вынік той палітыкі Расійскай імперыі пасля трайнога перадзелу Рэчы Паспалітай і далучэння земляў Беларусі да Расійскай імперыі. Менавіта з таго часу па загаду Кацярыны II права, улада ў нашым краі аддавалася рускамоўным чыноўнікам, знішчалася ўніяцтва і прапагандавалася праваслаўе, для дзяцей-беларусаў існавала толькі рускамоўная царкоўна-прыхадская школа, зачыненыя былі ўсе беларускамоўныя адукацыйныя ўстановы, нават школы пры манастырах, у 1832 г. быў зачынены універсітэт у Вільні. Больш таго, пачалася "чыстка" мясцовага дваранскага саслоўя (г.зн. шляхты), бо у парпаўнанні з Цэнтральнай Расіяй яно было незвычайна шматлікім і ў пераважнай большасці складалася з дробных землеўладальнікаў. Чаму так склалася? Тут мы павінны ведаць, што само слова *"шляхта"* мае нямецкае паходжанне і азначае *"бітва"*, а *"шляхціц"*-*"баец"*. Цяпер усё зразумела, адкуль так многа было шляхты на нашай зямлі. Гэта тыя людзі, якія самі ці іх продкі баранілі сваю Айчыну (калі нават прыгонны селянін ішоў баранісь краіну, ён атрымліваў вольную грамату, надзел зямлі і статус шляхціца (шляхецкае званне).

Расійскія ўлады запатрабавалі ад беларускай шляхты (як і ад польскай, дарэчы) прад'яўлення дакументаў на дваранскае званне. Дробная шляхта часта не мела іх і ў выніку выключалася з дваранскага саслоўя, губляючы свой сацыяльны статус. Гэты працэс увайшоў у гісторыю пад назвай "разбор шляхты" і расцягнуўся на многія дзесяцігоддзі. Пасля Кацярыны II гэтую ж палітыку прадаўжалі яе паслядоўнікі Павел I і Аляксандр I. Асабліва інтэнсіўна адбываўся гэты працэс у краіне, калі ўе ўзначальваў Мікалай I (30-я гады 19 ст.). Па царскаму ўказу ад 19 кастрычніка 1831 года яшчэ і ўзмацніўся "разбор шляхты".

Больш за 10 тысяч шляхціцаў Беларусі былі пазбаўлены звання "шляхціц" і пераведзены ў саслоўе дзяржаўных сялян або мяшчан. Значная частка іх была прыцягнута да выканання рэкруцкай павіннасці і разам з сем'ямі перасяляліся ў многія пагранічныя раёны Расійскай імперыі, іншымі словамі, беларусы высяляліся з роднай зямлі, затое дзяржава ўсяляк заахвочвала рускіх сялян перасяляцца на беларускія землі. Канфіскаваныя маёнткі ўдзельнікаў паўстання раздаваліся "прыродным расійскім памешчыкам" у арэнду на 100 гадоў, а практычна – назаўсёды. На працягу 1831 – 1840 гг. было спынена дзеянне II Статута ВКЛ у Беларусі.

Рэформа 1861 года таксама не дала палёгкі сялянам. Наадварот, з абжытых земляў актыўна зганялі арандатараў-чыншавікоў. Зноў з'яўляліся "раскіданыя гнёзды".

У творы Янкі Купалы трагедыя "раскіданага гнязда" прадстае як эпахальная, агульнанародная, за якой стаяла ўсё тое ж пытанне, быць не быць беларускай нацыі.

Трэба звярнуць увагу тут яшчэ і на тое, што Янка Купала ў "Раскіданым гняздзе" па-майстэрску адлюстраваў філасофію пакоры селяніна-беларуса, якая была выратавальнікам і абярогам у тыя часы, калі і дзяржава, і права, і суд былі не на яго баку. Аднак у п'есе паказана, што працавітасць і пакорлівасць спрыяюць фізічнаму выжыванню, але вельмі негатыўна адбіваюцца на духоўных прынцыпах і каштоўнасцях.

Прадаўжаць можна бясконца, заглыбляючыся ў змест твораў Янкі Купалы. І не важна, гэтым творам будзе верш ці артыкул, паэма ці п'еса. У кожным з іх сёння мы яшчэ раз адкрываем для сябе Купалу, бо Купалаўскі герой шматаблічны і сімвалічны. Але самае галоўнае, што асаблівасць яго, як і самога паэта, - гэта "перавага суб'ектыўнага над аб'ектыўным" ва ўспрыманні жыцця і прыроды, у яго вялікім імкненні да волі, жывучы ў "забраным краі". У здольнасці жыць паўсядзённымі клопатамі і рэаліямі і ў свядомасці мець высокія ідэалы, быць грунтоўным і памяркоўным, трагічным і гумарыстычным, філосафам і альтруістам, прарокам і рацыяналістам...

Купала адкрыў чытачу самыя разнастайныя бакі чалавечага існавання, праяўлення, яго жыцця ў адзінстве з прыродай. Але самае галоўнае, што паэт нам адкрыў законы, вялікія, глыбінныя і ўсемагутныя, якім падпарадкавана ўсё на гэтым свеце, а адступленне ад іх недаравальна, бо рана ці позна надыдзе час расплаты. І як жа супярэчыць гэтым законам уціск чалавека чалавекам. Такую з'яву Янка Купала лічыў злачынствам, бо яна вядзе да дэградацыі абодвух бакоў.

Пра ўсё гэта пісаў Янка Купала, але ці ўважліва мы чытаем творы нашага Песняра і Прарока?

*Бурбоўская Алена Уладзіміраўна, вучоны сакратар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.*





# ПЕРШЫ ВЫПУСК НА КУРСАХ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ПРЫ ТБМ

Прамінуў год з таго часу, як ТБМ імя Ф. Скарыны аб'явіла набор на курсы беларускай мовы. Пасля з'яўлення аб'яваў у газетах у менскую сядзібу Таварыства патэлефанавала і прыйшло мноства людзей, якія выказалі жаданне займацца беларускай мовай. Уступная лекцыя для навучэнцаў курсаў у траўні

Грамадскае аб'яднанне
"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"

Пасведчанне №___

*Выдадзена спадарыні Кацярыне Макарэвіч, якая ў 2000/2001 навучальным годзе скончыла курсы па культуры беларускай мовы.*

Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў

Выкладчык Людміла Дзіцэвіч

г. Менск 27 красавіка 2001 г.

мінулага года прайшла ў перапоўненай зале, аднак, прысутныя, здавалася, не заўважылі цеснаты, доўга не адпускалі выкладчыцу спн. Валянціну Раманцэвіч, засыпалі яе пытаннямі і не жадалі разыходзіцца...

Пакольки ахвотных займацца на курсах беларускай мовы аказалася болей за 70 чалавек, давялося сфармаваць тры навучальныя групы. Дзве з іх, групы пачатковага навучання, узяліся весці Валянціна Раманцэвіч і Станіслава Філіповіч, а групу па культуры мовы – для тых, хто хацеў бы ўдасканаліць свае веды, - выкладчыца Беларускага універсітэта культуры, намеснік старшыні ТБМ Людміла Дзіцэвіч. Усе нашыя выкладчыкі – выдатныя спецыялісты, да таго ж, мілыя, абаяльныя жанчыны, што стварыла асаблівa спрыяльныя ўмовы для навучання. Моцна загружаныя на асноўных месцах працы, яны ахвяравалі свае сілы і час для курсаў у Таварыстве і на працягу усяго навучальнага года праводзілі тут заняткі раз на тыдзень па вечарах, практычна бясплатна.

І вось навучальны год падышоў да завяршэння. Першымі аднагадовы курс навучання беларускай мове закончылі навучэнцы групы спн. Раманцэвіч. 19 красавіка ў гэтай групе прайшла ўрачыстая выпускная вечарына. Дванаццаць навучэнцаў, што паспяхова дайшлі да фінішу, атрымалі пасведчанні аб заканчэнні курсаў. Трэба заўважыць, што гэтыя дванаццаць – першыя за некалькі апошніх гадоў грамадзяне Беларусі, якія мелі магчымасць атрымаць такія пасведчанні, бо ўсе курсы, арганізаваныя дзяржавай у пачатку 90-х гадоў для ліквідацыі непісьменнасці ў роднай мове, як цяжкой спадчыны беларускай савецкай адукацыі і выхавання, былі паўсюдна зачыненыя з-за як бы ўжо і непатрэбнасці ў выніку прыняцця закона аб дзвюх дзяржаўных мовах. Працэс беларускамоўнай асветы тады адразу скончыўся, і ўсюды зноў запанаваў крыху ўжо падгнілы псеўдарасейскі сурагат. Такое вось дзіўнае разуменне ў кіраўнікоў нашай краіны дзяржаўнага дзвюхмоўя, такое вось выкананне ўласнаручна прынятых законаў. Такім чынам, аднаўленне курсаў беларускай мовы ў ТБМ нібыта паклала канец мараторыю на народную беларускамоўную асвету. Аднаўленне яе, прычым, знізу, не па прымусе, а па ўласным жаданні людзей, можна лічыць знакавай падзеяй, сведчаннем пра з'яўленне ў грамадстве новых тэндэнцый і памкненняў, выспяванне усведамлення неабходнасці роднай мовы ў жыцці чалавека.

Выкладала ў гэтай першай групе спн. Валянціна Раманцэвіч, вядомая як аўтарка падручнікаў па беларускай мове і навучальных праграм на тэлебачанні. У пачатку 90-х яна выкладала беларускую мову кіраўнікам курсаў у войску, вяла курсы ў вайсковым камітэце дзяржбяспекі, а таксама на 107-м Авіярамонтным заводзе, мае вялікі досвед навучання практычнаму аваладанню мовай, працуе па ўласнай эфектыўнай методыцы. Сваю задачу выкладчыца бачыць у тым, каб расkамплексаваць навучэнцаў, зламаць бар'ер, які перашкаджае ім свабодна загаварыць. Ахвяравала свой час рабоце з гэтай групай галоўным чынам дзеля маральнага задавальнення, бо адчувала зацікаўленасць і аддачу ў рабоце з імі.

Што прывяло нашых сёлетніх навучэнцаў на курсы ТБМ, што вынеслі яны для сябе з гэтых заняткаў?

Спн. Зоя Чаропка наведвала курсы беларускай мовы ў час перабудовы на пачатку 90-х у Белсаўпрафе. Пачатак быў пакладзены, але хацелася займацца і далей. На жаль, потым такіх заняткаў не было. Як толькі прачытала аб'яву ў газеце пра набор на курсы ў ТБМ, адразу на іх запісалася. Тут яна адчула, што з'явіўся зрух у яе аваладанні мовай, стала гаварыць больш упэўнена. Вельмі спадабалася методыка выкладання: адпрацаванасць, даступнасць, стымуляцыя актыўнасці ў карыстанні мовай.

Сп. Ігар Ляцяга амаль зусім не вывучаў беларускую мову ў школе: з 5 да 10 класа ён вучыўся на Украіне, куды пераехала сям'я. Вельмі хацеў палепшыць сваю мову, бо хаця гаворкай больш-менш авалодаў, але пісаць амаль не мог зусім. Лічыць, што цяпер мае ў гэтым неблагія зрухі, дыктоўкі ў спн. Раманцэвіч пісаў ужо на "4". Добрае ўражанне пакінула сама атмасфера заняткаў: шмат гумару, свабоды, раскамплексаванасць, змена відаў дзейнасці, дзе прысутнічалі вусныя тэмы, гутаркі, чытанне, пісьмо.

Спн. Ларыса Малочка дзевяць гадоў таму прыехала на Беларусь з Украіны. Прыйшла на курсы, бо лічыць, што сорамна не ведаць мовы народа, сярод якога жывеш. Гэтыя месяцы навучання дазволілі ёй зрабіць першы крок у аваладанні мовай. Але важным для яе аказалася і іншае. Тут, на курсах яна знайшла сабе сяброў, блізкіх па духу людзей, тут стварыўся асяродак, у якім адчуваеш сябе добра. І цяпер, пасля заканчэння заняткаў яны не перарываюць сувязяў, нават пастанавілі хаця б раз на тыдзень сустракацца, каб паразмаўляць па-беларуску, наведаць разам якіясь культурныя імпрэзы. Разам удзельнічалі ў Чарнобыльскім шляху. Уражанні ад наведвання курсаў спн. Ларыса выказала эмацыянальна: "Утульна, цёпла, цікава! Шмат у душы засталося!"

Трэба сказаць, што і сапраўды, людзі, якія прыйшлі на курсы ў Таварыства, атрымалі не толькі веды, але і яшчэ штосьць у дадатак. Многія ў сённяшняй лукашэнкаўскай Беларусі адчуваюць пэўны душэўны вакуум, патрэбу ў той цеплыні, пра якую згадала спн. Ларыса. Навучальныя групы курсаў сталі адначасова асяродкамі беларушчыны, аб'яднанымі агульнасцю інтарэсаў і душэўных памкненняў. Адзначылі разам навагоднія святы, наведалі гістарычныя семінары, вечарыны ў Доме літаратара, у Беларускай хатцы, у Чырвоным касцёле, запрашалі на заняткі паэтаў, бардаў. Многія з наведвальнікаў курсаў, можна сказаць з упэўненасцю, і надалей застануцца ў полі прыцягнення беларускага адраджэнскага руху, пашыраць шэрагі сяброў Таварыства беларускай мовы. Такім чынам, курсы – гэта і навучанне, і пашырэнне ўплыву ТБМ сярод насельніцтва. Першы досвед стаў таму яскравым сведчаннем.

З іншага боку, ён паказаў, што Таварыства можа ўзяць на сябе арганізацыю навучання роднай мове, калі гэтым не займаецца дзяржава. Трэба шукаць магчымасці фінансавання і пашыраць сетку такіх курсаў, ствараць іх усюды, дзе ёсць арганізацыі ТБМ. На заканчэнне выказваем падзяку ад імя Таварыства беларускай мовы нашым выкладчыкам, спадарыням Валянціне Раманцэвіч, Станіславе Філіповіч і Людміле Дзіцэвіч, а таксама – аўтару ідэі стварэння курсаў беларускай мовы пры ТБМ, старшыні кніжнага клуба ТБМ, сябру Адукацыйнай камісіі Зміцеру Цехановічу.

*Старшыня Адукацыйнай камісіі ТБМ Святлана Багданкевіч.*



**Пасведчанне аб заканчэнні курсаў атрымоўвае Зміцер Бахвалаў**

# АБВЕСТКА

У хуткім часе ў Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы выходзіць з друку кніга знанага навукоўца і педагога, доктара філалогіі, прафесара Паўла Сцяцко.

Падаем анатацыю на гэтае выданне і адрас для замоваў на атрыманне кнігі.

**ПАВЕЛ СЦЯЦКО**. Уводзіны ў мовазнаўства (Гродна, 2001).

**АНАТАЦЫЯ**

Навучальны дапаможнік "Уводзіны ў мовазнаўства", падрыхтаваны доктарам філалагічных навук, прафесарам, загадчыкам кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы П. У. Сцяцко, асвятляе ўсе пытанні, прадугледжаныя тыповай праграмай гэтага курсу для ВНУ (2001 г.).

У дапаможніку знайшоў адлюстраванне шматгадовы досвед аўтара ў выкладанні гэтай навучальнай дысцыпліны ў ВНУ і практыка выкарыстання створанага прафесарам П. У. Сцяцко навучальнага дапаможніка "Пачатковы курс мовазнаўства" (Гродна, 1993).

У дапаможніку "Уводзіны ў мовазнаўства" ўлічаны сённяшні змест гэтага тэарэтычнага курсу і практыка яго асвятлення ў падручніках, выдадзеных у іншых краінах (Расія, Украіна).

Дапаможнік "Уводзіны ў мовазнаўства" атрымаў высокую ацэнку і рэкамендацыю да друку афіцыйных рэцэнзентаў: прафесара В. І. Рагаўцова – аўтара (разам з А. Л. Юрэвічам) першага выдадзенага на Беларусі дапаможніка для ВНУ "Уводзіны ў мовазнаўства" (Мінск, 1987) і кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка.

Кніга П. У. Сцяцко "Уводзіны ў мовазнаўства" рэкамендавана Навукова-метадычным цэнтрам вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь у якасці дапаможніка для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцяў вышэйшых навучальных устаноў.

*P.S. Заказы з подпісам кіраўніка ўстановы і галоўнага бухгалтара дасылайце на адрас: 230023, г. Гродна, вул. Ажэшкі, 22, выдавецкі аддзел Установы адукацыі "Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы", Г.У. Румянцавай.*

# "Казкі для Анюткі": рэха конкурсу

"Наша слова" 25 красавіка г.г. надрукавала паведамленне аб выніках конкурсу "Казка для Анюткі", праведзенага Магілёўскай абласной арганізацыяй ТБМ. Узяць удзел у гэтым конкурсе запрашаліся і дзеці, і дарослыя. Гэта, мабыць, першы досвед спаборніцтва, у якім не было фактычна ніякіх узроставых абмежаванняў. І таму цікава азірнуцца на тых, хто наважыўся паўдзельнічаць у такім конкурсе.

Усіх удзельнікаў было 22. Сярод іх 13 школьнікаў, 3 студэнты, 5 дарослых і 1 калектыўны твор творчага аб'яднання "Вятрак". Дарослыя ўдзельнікі свой узрост не паведамлялі, таму назваць старэйшага з удзельнікаў не выпадае. Па некаторых асаблівасцях дасланых прац можна меркаваць, што ўсе гэтыя людзі досыць маладыя (не старэй за 30 год).

Калі ж пашукаць самага маладога ўдзельніка конкурсу, то гэта або Сержык Чылкін з Менску (9 год), або Коля Бабарыка з вёскі Мачуль Столінскага раёна (Коліну казку запісала мама і ўзрост казачніка ў лісце не пазначаны). Сержык паведаміў, што яго дзядулька – пісьменнік (праўда, прозвішча не назваў) і шмат пра яго (Сержыка) пісаў. Адно апавяданне "Сняжынкі" нават друкавалі ў школьнай чытанцы для другога класа. Па дасланай Сержыкам казцы відаць, што пісаў яе сам, без дзядулевай дапамогі, хаця такая дапамога ўмовамі конкурсу не забаранялася. І Колеву казку журы ацаніла досыць высока – ёй прысуджана сёмае месца.

Геаграфічна ўдзельнікі конкурсу рассяліліся па ўсёй Беларусі. Найбольш казачныя вобласці – Гарадзенская (6 прац) і Менская (6 прац, у тым ліку 3 з сталіцы). Колькасць пераходзіць у якасць: у гэтых абласцях жывуць усе прызёры. Далей – Магілёўская (4), Віцебская (3), Берасцейская (2) і Гомельская (1).

Блізкімі да прызавых журы прызнала казкі, складзеныя Надзеяй Пятрушынай з Менска, Вячаславам Юдчыцам з Баранавіч, Ірынай Прымак з Берасця.

Мяркуецца, што праз колькі год будзе падрыхтавана кніжка казак пра вобачак-ветразень. У ёй будуць скарыстаныя і лепшыя з казак, дасланых на конкурс. Калі ж нехта спазніўся даслаць сваю казку на конкурс ці прыдумаў яе пасля таго, як конкурс скончыўся, то раім яму ўсё ж даслаць сваю казку на пазначаны ніжэй адрас. Магчыма, і яна патрапіць у кніжку...

*М. Булавацкі, 212030, Магілёў, а. с. 3.*

*Беларуская фанатэка*

## Арыенцір - "Зорка Венера"

Беларускі фальклёрны напрамак сёння складаюць шматлікія калектывы, якія прадстаўляюць увесь стылявы спектр апрацовак нацыянальнай спадчыны. Ад традыцыйнага аўтэнтыка гуртоў "Ліцвіны" і "Ветах", блізкай да іх "Троіцы", фольк-мадэрнавых "Палаца", "Крыві", фольк-рокавых "Без білета", "Postscriptum" да электронна-індустрыяльных "UR'IA" і экстрэмальнага "Зьніча"...

За гэтай стылёвай разнастайнасцю, спрэчкамі вакол пошукаў новых форм існавання беларускага фальклёру, слухачы і крытыкі неяк перасталі зважаць на тыя тэндэнцыі, якія пачынаюць пераважаць у гуртах фальклёрна-эстраднага кірунку. Выканаўцы з гэтых гуртоў у свой час шмат зрабілі для папулярызацыі беларускай народнай песні, стымулявалі пошукі новага ансамблевага гучання, адраджэння напаўзабытых народных інструментаў, экспедыцыйных пошукаў і даследванняў.

Сёння героі фальклёрнай і фольк-рокавай сцэны былых гадоў усе больш нацягваюць на сябе чырвоныя разанскія "рюбашкі" і зацягваюць "Ехал на ярмарку ухарь-купец" (Заслужаныя артысты РБ С. і У. Салодкія на канцэрце, прысвечаным 50-годдзю М. Пацука), выдумляюць свае тэорыі пра "адзіную мову" беларусаў і расіян ("Песняры" на юбілейным канцэрце ў Маскве), пад напышлівымі вобразамі заклікаюць беларусаў адмовіцца ад сваёй нацыянальнай адметнасці і дзяржаўнасці ("Беларускія песняры" на канцэрце ў Калузе ў дзень славянскай пісьменнасці і культуры), карацей, імкнуцца "ўпісацца" ў кан'юнктурнае кола "інтэграцыйнага мастацтва". Грошы ж не пахнуць!




Сапраўды, цяжка пры такіх умовах і норавах захаваць патрыятычныя прынцыпы, пачуццё здаровага сэнсу і высокі ўзровень твораў.

Адзін з нямногіх калектываў, які гэта здолеў рабіць на працягу амаль 35 гадоў – фальклёрны гурт "Купалінка", якім кіруе заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь А. Цялкова. Кампакт-дыск гурта пад назвай "Зорка Венера" не так даўно быў выдадзены з фундатарскай дапамогі аб'яднання "Белатракцыён". На ім прадстаўлены творы, якія выконваюцца "Купалінкай" у апошні час.

А распачынаецца праграма дыска "Зорка Венера" аднайменным творам М. Багдановіча і С. Рак-Міхайлоўскага. Беларускі шэдэўр прадстаўлены ў класічным варыянце і гэта робіць яго эмацыянальным камертонам усяго выдання.

Музычную палітру дыска ўпрыгожваюць вядомыя беларускія народныя песні "Чырвоная вішня", "Купалле", "А ў полі тры крынічанькі". У адрозненне ад "песняроўскіх" апрацовак, музыкі "Купалінкі" прапануюць традыцыйна ашчадныя, акадэмічныя апрацоўкі і выкананне, аздобленае гучанне народных інструментаў: жалеек, цымбал, скрыпак.

Агульны традыцыйны гукавы фон упрыгожваюць гумарыстычныя танцавальныя нумары "Карапет", "Дудалка-стукалка", "Любава", якія найбольш вый[illegible]а слухаюцца менавіта на канцэртах. І сапраўды сюрпрыз дыска – песня "Ануся-сардэнька", аранжыраваная ў стылі сярэднявечнай балады. Гэты твор – выдатны прыклад таго, што ў фальклёрна-эстрадных калектываў ёсць шанец пераадолець шматгадовыя штампы жанру. "Анусю" можна выконваць на любым рыцарскім фэсце і твор заўсёды будзе мець поспех!

Камерцыйны блок дыска "Зорка Венера" – агульна-усходне-славянскі. Ён уключае знакамітую (з часоў трыё Марыніч) украінскую песню "Нясе Галя воду" ды расейскія (куды ж без іх!) "Калінку" ды "Палюбіла я цыгана". Выкананы гэтыя творы падкрэслена высокапрафесійна, каб на любыя закіды ў кан'юнктурнасці адказаць важкім аргументам высокай выканаўчай культуры...

Дыск фальклорнага гурта "Купалінка", "Зорка Венера" яшчэ адно сведчанне высокага выканаўчага ўзроўню філарманічных калектываў фальклёрнага кірунку. Але і папярэджанне: творчы крызіс можа завесці ў тупік любы калектыў, калі будзе спынены пошук новых музычных фарбаў, калі ўся ўвага будзе аддадзена таму, як больш выгадна задаволіць інтэграцыйныя патрэбы ўладаў.

Дыск "Зорка Венера" фальклёрнага гурта "Купалінка" можна набыць на сядзібе ТБМ (Румянцава, 13) з 12 да 19 гадзін па буднях ці замовіць па тэлефоне 213-43-52.

*Анатоль Мяльгуй.*

## Свае, родныя людзі

Вось далёкі і блізкі г. Саўт Рывер, штат Нью Джэрсі США. Тут жывуць шмат нашых землякоў якія ў розныя часы апынуліся далека ад Бацькаўшчыны, але прыемна чуць беларускую мову, роднае слова, чуць там нашыя песні, танцуюць народныя беларускія танцы, ёсць і свая весялуння, яе так і клічуць "Лявоніха".




**Беларуска-Амерыканскі грамадскі цэнтр у г. Саўт-Рывер**

Сам горад вельмі чысты і гэтую чысціню трымаюць самі жыхары. Кругом кветкі, растуць тут і беларускія памідоры, як яны ганарацца імі, і бульбачка, але няма вялікіх агародаў, больш кветкі.

Галоўнае месца адпачынку нашых землякоў, да і іншых гэта прыгожы будынак Беларуска-Амерыканскага цэнтра, а побач царква Святой Еўфрасінні Полацкай і ўсё гэта ў зялёным вялікім парку.

У цэнтры вялікая зала і стаяць сцягі амерыканскі і наш бел-чырвона-белы, прыгожая сцэна, на задніку намалёваны луг, рэчка і стагі сена.

Вось у гэтым прыгожым месцы на ўсёй тэрыторыі і адбыўся фестываль беларусаў што жывуць у Амерыцы, а з Беларусі запрасілі наш ансамбль фальклёру "Вясёлыя музыкі". І чаго толькі там не было, вясёлыя гульні і латарэя, смачная ежа, спевы, танцы, жарты, вясёлыя ўсмешкі.

Пусціліся ў скокі, як малодшыя, так і старэйшыя і ні ў каго не было сумнага твару, перасталі балець ногі, спіны і так да позняга вечара.

Цёмна ўжо стала, а людзі яшчэ сядзелі і ўспаміналі Беларусь мілагучнай песняй, рэха якой далёка неслася наўкол. Здавалася яго чуюць усе беларусы і падхапіўшы падгалосак цягнуць далей каб было чутно на Бацькаўшчыне.

Скончыўшы адну песню пачынаюць другую. Вось Стася Сумская запела "Купалінку" яе падтрымалі малая і вялікая Соні Арцюшэнкі, Людміла Колін, Ліза Літаровіч, падышлі мужчыны прэзідэнт Беларуска-Амерыканскага цэнтра Жорж Наумчык з братам Сцяпанам, Сцяпан Страпко, Мікола Бычкоўскі, Валодзя Валадковіч і іншыя. І гучней паплыла родная мелодыя:

*Купалінка, купалінка,*
*Цёмная ночка,*
*Цёмная ночка,*
*а дзе ж твая дочка.*
*Мая дочка ў садочку*
*ружу-кветку поле,*
*Ружу-кветку поле,*
*вяночкі звівае.*



**Прэзідэнт Беларуска-Амерыканска грамадскага цэнтру у г. Саўт-Рывер Жорж Навумчык**

Хтось з мужчын папрасіў гарманіста: "Рэж палескія прыпеўкі", – і пачаў спяваць:

*Запрагу ката ў сані,*
*Кацянёнка ў тарантас,*
*Павязу сваю каханку,*
*Па ўсёй вёсцы на паказ.*

*Колькі я не сватаўся,*
*Колькі не стараўся,*
*Усе труды мае прапалі,*
*Халастым застаўся.*

Не забыліся беларусы ні нашых песень, ні танцаў. Хоць і жывуць далёка ад Бацькаўшчыны але сэрцам з Радзімай. І мы вельмі ўдзячны за цудоўны прыём нашага маленькага ансамбля, а яшчэ шчырая падзяка за падтрымку ў стварэнні на Беларусі дзіцячага тэатра фальклёру "Бераг белых буслоў", які працуе цяпер у Маладзёжным цэнтры фонду Чарнобыля Генадзя Грушавога г. Буда-Кашалёва Гомельскай вобласці і нясе людзям радасць і асалоду народным абрадам, песняй, танцам.

Родная мова гучыць і будзе гучаць! І заўсёды, успомнім аб земляках што жывуць у Амерыцы.

Моцнага здароўя! І шчыры "Дзякуй"!

*Навуковы супрацоўнік НДЛ беларускага фальклёру БДЦ, мастацкі кіраўнік тэатра фальклёру "Бераг белых буслоў" Мікола Кот[illegible]*

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 4. 06. 2001 г.
Наклад 4600 асобнікаў. Замова № 1442.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 274 руб., 3 мес.- 822 руб.
***Кошт у розніцу:*** 70 руб.